# СУСТРЭЧА з Яўгеніем Кабатцам

(Працяг са стар. 1)

знаёміць чытачоў «Нівы» з Яўгеніем Кабатцам. І вось непасрэдная сустрэча з ім аказалася прыемнай нечаканасцю. Пісьменнік па паходжанню беларус. Сваё дзяцінства і ранняе юнацтва правёў у беларускім асяроддзі на Гайнаўшчыне, на ўлонні тутэйшай маляўнічай прыроды, якую надта палюбіў. Назіранні за навакольным жыццём, падзеі, якія адбываліся на вачах уражлівага і дапытлівага хлапчука пакінулі ў яго ўспамінах незабыўны след, каб пазней, ужо ў гады сталасці, жывіць ягоную творчасць.

Яўгеній Кабатц вельмі быў усхваляваны, што ім зацікавіўся наш штотыднёвік. У размове з намі неадначасова адзначаў, што адным са сваіх прызначэнняў у творчай дзейнасці лічыць служэнне таму асяроддзю, з якога выйшаў. Калі мы пацікавіліся творчымі намерамі Кабатца, дык пачулі адказ, што зараз ён працуе над раманам усецэла прысвечаным беларусам. У ім будуць адлюстраваны падзеі, звязаныя з партызанскім рухам на Беласточчыне, а ўласна кажучы, з завяршальным яго перыядам напярэдадні вызвалення. Гэты раман мае выйсці з друку ўжо ў 1962 годзе.

Я. Кабатц, так як многа яго сяброў па пяру, пачаў свой творчы шлях у літаратурных часопісах: «Новай культуры», «Пшэглёндзе культуральным», а таксама ў «Штандажэ млодых». Зараз ён працягвае друкавацца на старонках літаратурнага двухтыднёвіка «Вспулчэсносць». У ім змяшчае не толькі свае новыя апавяданні, але таксама і артыкулы. Адзначым, што паасобныя творы пісьменніка перакладаліся ўжо на балгарскую і нямецкую мовы.

У выпадку Яўгенія Кабатца маем несумненна дачыненне з маладым таленавітым пісьменнікам. Аб гэтым сведчыць ягоны параўнальна ўжо багаты творчы набытак. Дагэтуляшнія поспехі літаратара дазваляюць з упэўненасцю сказаць, што перад ім вырысоўваецца цікавая творчая будучыня. Застаецца тады толькі пажадаць Яўгенію Кабатцу новых творчых удач.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

## ШТО НОВАГА Ў БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

(Працяг са стар. 1)

прыладамі, якія вельмі аблягчаюць навуку. І таму, думаю, бацькі так ахвотна пасылаюць да нас свае дзеці.

— Ці ў сувязі з гэтым не мелі Вы цяжкасцей у расватэраванні замясцовых вучняў?

— 95% нашых вучняў прыходзіць да нас з вёсак, і то не толькі з аднаго Бельскага павета. Вучацца ў нас дзеці з Сямяціцкага, Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў. Зараз вельмі цяжка знайсці кватэры, і таму пабудову інтэрната лічу галоўнай мэтай сваіх намаганняў.

— Жадаю поспехаў. Дазвольце запытаць Вас, як Вы ў сваёй школе ажыццяўляеце праграму палітэхнічнага навучання?

— Мы наладзілі кантакт з двума прадпрыемствамі: з ПЗГС-ам, які трымае шэфства над нашай школай, і з малакаапрацоўчым кааператывам у Бельску. Гэтыя прадпрыемствы згадзіліся праводзіць практычныя заняткі для нашых вучняў. Дзяўчаты ходзяць у малачарню, а хлопцы практыкуюць у рамонтнай майстэрні ПЗГС-у. Апрача гэтага для вучняў ІХ і Х класаў наладзім матацыклавы курс, а **вучаніцы** — і гэта асабліва хачу падкрэсліць — **пад кіраўніцтвам Павятовага праўлення Лігі жанчын будуць знаёміцца з кулінарнымі тайнамі.**

— Чаму Вы аж так шматважным лічыце курс гатавання?

— Гэта ўжо старая праўда: праз страўнік да сэрца. Я буду вельмі рады, калі кожная выпускніца нашага ліцэя зможа зрабіць смачную ежу.

— Вы ўспомнілі аб выпускніках. Ці вядома Вам, што робяць і дзе знаходзяцца апошнія выпускнікі Вашага ліцэя?

— Зразумела, ведаю! Ніводзін выпускнік нашага ліцэя не можа застацца, як кажуць, «на лёдзе». Адны далей вучацца, другія працуюць.

Яраслаў Васільевіч раскрыў дзённік леташняга ХІ класа і пачаў называць прозвішчы, ВУЗ-ы, тэхнікумы і розныя ўстановы. Беласток, Варшава, Кракаў, Люблін, Гданск, Лодзь — гэта некаторыя гарады, у якіх зараз вучацца леташнія выпускнікі Бельскага ліцэя. Раз'ехаліся яны, як бачым, па цэлай краіне, але дырэктар ніводнага з іх не забыў.

— Ці выпускнікі Вашага ліцэя таксама памятаюць Вас?

— А як жа! Вось нядаўна быўшая, дарэчы вельмі добрая, мая вучаніца запрасіла мяне на сваё вяселле. Яна ўжо закончыла Медыцынскую Акадэмію ў Беластоку.

Так, гэта найлепшы доказ памяці. Але і ёсць за што памятаць!

**В. Рудчык**

## СЕМІНАР ДЗЕЯЧОЎ КУЛЬТУРЫ

Нядаўна Ваяводскі Дом культуры ў Беластоку сарганізаваў у Варшаве выяздны семінар. У семінары прынялі ўдзел кіраўнікі Павятовых дамоў культуры, працаўнікі рэфератаў культуры ў Інспектаратах асветы, а таксама прадстаўнікі розных арганізацый, якія вядуць культурную дзейнасць на Беласточчыне. Між іншымі, прынялі ў ім удзел 3 прадстаўнікі Беларускага грамадска - культурнага таварыства: Віктар Швед, Міхал Вішэнка і Уладзімір Паўлючук. **У. П.**

## АЎТАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Варшаўская група Беларускага літаратурнага аб'яднання ў апошні час у памяшканні Таварыства наладзіла дзве аўтарскія сустрэчы членаў Літаб'яднання.

6 кастрычніка г. г. выступіў перад слухачамі з новымі вершамі на беларускай і польскай мовах Яша Бурш.

13 кастрычніка г.г. Янка Чыквін прачытаў прысутным новае апавяданне і некалькі вершаў.

Так пасля адной, як і другой сустрэчы адбыліся цікавыя дыскусіі над прачытанымі творамі. В. Ш.

## ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК

Хата З. Зарэцкага з вёскі Сток (Сакольскі павет).
Фота: **Г. Рагазінскі**

дзячы на ложку, церабіў рыжыя, па-салдацку закручаныя вусы і ўсхвалявана гаварыў:

— У вас, таварышы, цудоўныя справы робяцца. Цудоўныя! Дык тут — першы кавалачак вызваленай беларускай зямлі! А рабяткі твае, бацька, цалкам могуць аказацца ў Віцебску.

— Ты так лічыш? — Мінай уздыхнуў.

— Так. Мы паслалі ў горад разведчыц. Спадзяюся, што ім удасца высвятліць, што з дзецьмі.

Мінай не адказаў. Ды і што адказваць?

— Так што нос не вешай, — закончыў Стулаў. — Праз тыдзень я буду ў Маскве, далажу Штабу партызанскага руху аб вашых справах.

Шостага красавіка пасыльны з абкома ўручыў Мінаю пакет з пісьмом ад П. К. Панамарэнкі. Начальнік Штаба партызанскага руху дзякаваў Мінаеўцам за дапамогу часцям Чырвонай Арміі, і пісаў, што зона Віцебскіх варот павінна адыграць вельмі вялікую ролю ў далейшым развіцці партызанскага руху ў Беларусі. Штаб загадваў актывізаваць баявыя дзеянні і ўсімі сіламі ўтрымліваць пабярэжжа Заходняй Дзвіны. У канцы пісьма паведамлялася, што Цэнтральны Штаб лічыць неабходным аб'яднаць паасобныя партызанскія атрады Падзвіння ў адзіную брыгаду і рэкамендуе назваць яе «Першая Беларуская».

Восьмага красавіка атрады партызанскай зоны аб'ядналіся. На гэтай базе паўсталі дзве партызанскія брыгады — Першая Беларуская і Другая Беларуская. Першую ўзначальваў бацька Мінай.

Накіроўваючыся на нараду камандзіраў брыгады, вызначаную ў цэнтры партызанскага краю, у Астраўскім, Мінай заехаў у Храпакі да цесця. Той, убачыўшы Міная, заморгаў мутнымі маленькімі вачыма і раптам пачаў сутаргава плакаць.

— Што з табою, Іван? — злякаўся Мінай.

— Прапалі мы, прапалі! — загаласіў Іван. — Дзеці твае, Мінай, усе да адзінага знішчаны!...

Камбрыг памалу апусціўся на бервяно. Спытаў, не падымаючы галавы:

— Адкуль ты гэта ведаеш?

Цесць падняў яго, павёў у хату. Як скрозь сцяну, чуўся яшчэ ўсё плачлівы голас:

— Некалькі дзён назад праз нашу вёску ішлі стары са старою. Яны да вайны працавалі ў лясніцтве. Ад іх я ўсё і даведаўся.

— Калі? — выціснуў з сябе Мінай.

— Чатырнаццатага лютага.

— Так даўно?

Цесць працягваў. Пасля таго як Чырвоная Армія адступіла спад Віцебска, у Сураж пачалі вяртацца немцы і паліцэйскія, якія ўцяклі з разгромленых партызанамі гарнізонаў. Даведаўшыся, што ў Суражы трымаюцца дзеці бацькі Міная, яны патрабавалі іх расстрэлу. Чатырнаццатага лютага гітлераўцы сагналі на гарадскую плошчу жыхароў і аб'явілі: «Мы не бандыты, мы не хацелі праліваць кроў дзяцей і старых, і таму некалькі месяцаў трымалі заложнікамі сям'ю Шмырава. Але цяпер сам народ патрабуе іх смерці, і мы вымушаны ўступіць народу...»

І вось немец-кат увайшоў у пакой, дзе трымаліся дзеці і сястра Міная.

— Збірайся! — загадаў ён маленькай, сухенькай Ганне.

— Я адна? — здзівілася тая.

— І самая збірайся, і дзяцей бяры!

Ганна замітусілася. Паднялася і бабуля Шурынчыха. У турме яна зусім апусцілася — нават не ўмывалася, не прычэсвалася.

— А куды вы нас? Мо' на свабоду? — з надзеяй спытала старая, але гітлеравец не адказаў.

Ганна паспешна адзявала Міхаська. Закутала ў хустку, на рукі нацягнула свае рукавіцы. Старэйшыя дзеці адзяваліся самыя. Ліза, відавочна, адразу ўсё зразумела. Пабляднела, спыніўшыміся вачыма паглядзела на малодшых братоў і сястру, і з вачэй яе паплылі слёзы.

— Выходзьце! — гаркнуў фашыст. — Хутчэй!

(Заканчэнне на стар. 7)

138 139 140 141

# ГІСТОРЫЯ ВЯЛІКАЙ СУЧАСНІЦЫ

(Працяг са стар. 2)

вучонага па ракетнай тэхніцы. Аднак ёсць звесткі, што Цыялкоўскі пачаў распрацоўваць праблемы ракетабудавання і ракетаплавання намнога раней — у 1883 годзе. У сваіх працах па рэактыўнаму руху вялікі вучоны падрабязна і глыбока навукова разглядае ўсю праблему рэактыўнага палёту ў цэлым. Ён стварыў тэорыю міжпланетных і касмічных палётаў, вывеў самыя галоўныя законы, якія ляжаць у аснове гэтых палётаў і прыйшоў да вываду, што адзіным сродкам для дасягнення далёкіх светаў з'яўляецца шматступенная ракета.

Але ў царскай Расіі работам Цыялкоўскага не было ўдзелена належнай увагі.

У 1920 годзе вучань Цыялкоўскага інжынер Ф. А. Цандзер выступае з праектам міжпланетнага лятальнага апарата. У. І. Ленін абяцае яму падтрымку.

У 1924 годзе ў Маскве ствараецца «Таварыства па вывучэнню міжпланетных зносін». У яго прэзідыум уваходзілі К. Э. Цыялкоўскі, Ф. А. Цандзер, Ф. Э. Дзяржынскі. У розных гарадах краіны на базе асавіяхімаўскіх гурткоў узніклі групы даследвання рэактыўнага руху. У гэтых групах выраслі многія выдатныя савецкія вучоныя - стваральнікі касмічных караблёў нашага часу. Работы па асваенню космасу набывалі ўсё больш шырокі размах. І вось першыя вынікі. Трэцяга мая 1928 года пад Ленінградам стартуе першая савецкая ракета на бяздымным пораху. Праз пяць гадоў на вышыню чатырох з палавінай кіламетраў паднялася першая вадкасная ракета вагой 20 кілаграмаў. Праходзіць яшчэ два гады, і вага вадкасных ракет дасягае амаль 100 кілаграмаў. А ў маі 1939 года стартуе першая ў свеце савецкая двухступенная ракета.

З таго часу для гісторыі ракетнай тэхнікі словы «першы ў свеце» і «савецкі» сталі амаль адназначнымі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны адно імя «Кацюша» наводзіла страх на фашысцкіх галаварэзаў.

Закончылася вайна. Работа над удасканаленнем ракетнай тэхнікі працягвалася. На дапамогу ракетабудаўнікам прыйшлі аўтаматыка, кібернетыка, тэлемеханіка. У 1947 годзе ў СССР пачаліся сістэматычныя даследванні верхніх слаёў атмасферы з дапамогай ракет. Тэхніка дваццатага стагоддзя паказала, якія неабсяжныя магчымасці маюць ракеты ў спалучэнні з іншымі дасягненнямі сучаснай навукі.

З кожным годам набліжаўся вялікі дзень перамогі над зямным прыцягненнем. І вось чацвёртага кастрычніка 1957 года выйшаў на арбіту першы штучны спадарожнік Зямлі. За ім—другі, трэці спадарожнікі, штучная планета. Дванаццатага верасня 1959 года савецкая ракета даставіла вымпел на Месяц, яшчэ праз месяц з другой ракеты было зроблена фатаграфаванне адваротнага боку Месяца, а 15 чэрвеня 1960 года на Зямлю ўпершыню вярнуліся жывёлы, якія пабывалі ў космасе. Пяць касмічных караблёў, два спадарожнікі - гіганты, аўтаматычная станцыя, якая ляціць у бок Венеры, бліскучыя палёты Юрыя Гагарына і Германа Цітова вакол Зямлі — вось наступныя этапы вялікага шэсця чалавека ў космас.

Больш двух тысячагоддзяў налічвае гісторыя ракеты. Што і казаць, салідны ўзрост у нашай сучасніцы. Многа слаўных старонак упісана ў яе гісторыю.

Але гэта толькі пачатак. Рыхтуецца да старту касманаўт-тры. Не за гарамі палёты да Месяца, Марса, Венеры. На крылах розуму, у кабіне касмічнай ракеты чалавецтва выходзіць з зямной калыскі.

В. СТАНЦО



## У АЎТАНОМНЫМ РАЁНЕ ТХАІ-МЕО

На поўначы Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам на граніцы з народным Кітаем і Лаосам размешчан аўтаномны раён Тхаі-Мео. Ён цікавы не толькі цудоўным пейзажам, трапічнай расліннасцю і вечназялёнымі вяршынямі гор. На гэтай параўнаўча невялікай па размерах плошчы жыве 29 нацыянальнасцей, сярод якіх самыя буйныя тхаі і мео.

Раней асноўным заняткам насельніцтва было саматужнае рамяство, прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Цяпер плошчы пад пасевамі асноўнай культуры — рысу складаюць 65 тысяч гектараў, з якіх штогод збіраюць каля 145 тысяч тон рысу. Значныя поспехі дасягнуты ў галіне культуры і адукацыі. У раёне налічваецца 411 школ, у якіх навучаецца больш 20 тысяч чалавек. Ліквідуецца непісьменнасць. Па рашэнню ўрада ўдасканальваецца пісьменнасць народнасці мео.

На здымку: пасадка рысу на арашоных мясцовасцях.

## Усякая ўсячына

■ Савецкі касмічны карабель «Усход - 1», на якім Юрый Гагарын упершыню абляцеў нашу планету, быў аснашчаны рухавікамі магутнасцю ў 20 мільёнаў конскіх сіл. Гэта азначае, што ў калясніцу савецкага касманаўта было запрэжана ўсё пагалоўе коней царскай Расіі канца мінулага стагоддзя.

■ Адзін з амерыканскіх прафесараў знайшоў спосаб вызначэння вагі тлушчавай тканкі. Нятлушчавая тканка ўтрымлівае пэўную колькасць калію, у якім у сваю чаргу ёсць радыёактыўны ізатоп. Вымяраючы сілы радыяцыі спецыяльным лічыльнікам, можна лёгка ўстанавіць дакладную вагу тканкі, пазбаўленай тлушчу. Неаднаразовыя ўзважванні далі такія лічбы: тлушч у целе мужчыны складае ад 24 да 67 працэнтаў агульнай вагі, у жанчыны — ад 24 да 87 працэнтаў.

■ У Танганіцы (Афрыка) знайшлі чэрап чалавека, які жыў 1.750.000 год назад. Да гэтага часу лічылі, што перыяд гісторыі чалавека ахоплівае прыкладна мільён год.

■ Да традыцыйных блюд на вялікіх прыёмах у Лондане належыць суп з чарапахі. Ад дванаццаці год дастаўшчыкам марскіх чарапах для сталіцы Англіі была Заходняя Індыя. Апошнім часам гэтую функцыю пераняла Кенія. Лоўляю чарапах займаюцца ў Кеніі арабы. Цікава адзначыць, што на сушу выходзяць толькі самкі чарапахі, каб злажыць яйкі. Самцы, якіх мяса лічыцца самае лепшае і таму даражэйшае, жывуць выключна ў моры і лавіць іх значна цяжэй.

## МОДНЫЯ ПРЫЧОСКІ







Народная медыцына

## Гарбуз звычайны

Беларуская назва: гарбуз; руская — тыква.

Для лекавых мэт прымяняецца гарбузовае насенне, ачышчанае ад лускі (да трох шклянак на дзень), «малако» з насення, а таксама «мяса» плада, у якім знаходзяцца зерні. Гарбузовыя зерні ядуць пры хваробах мочапалавых органаў і пры глістах.

Пры хваробах почак і мачавога пузыра з гарбузовага і канаплянага насення, змешаных у роўных частках, робяць «малако» наступным чынам: высушанае гарбузовае і канаплянае насенне (па адной шклянцы кожнага) расціраюць у гліняцай пасудзіне, паступова падліваючы тры шклянкі вару, а затым працэджваюць, адціскаючы рэшткі. Атрыманае такім чынам малако выпіваюць на працягу дня.

Гэтае малако прымяняюць пераважна ў тых выпадках, калі ў мачы ёсць кроў, з прычыны спазматычных з'яў, затрымліваецца мача. Лічыцца, што гарбузовае насенне, калі яго з'есці за дзень да трох шклянак, можа выгнаць усялякіх глістоў і нават салітэра. Пасля гарбузовага насення рэкамендуецца прыняць порцыю слабіцельнага (рыцыны).

Чыстым, свежым «гарбузовым мясам» абкладваюць запаленыя месцы на целе пры апяканні, сыпах, прышчах і экземах.

Сам гарбуз, як харчовы прадукт, ужываецца ў шмат якіх стравах. Лічыцца ў народзе добрым мачагонным сродкам, які ачышчае не толькі почкі, але і ўвесь арганізм. Усё гэта яшчэ ў большай ступені датычыць другога віду гарбузовых — да кавуноў. Кажуць, што кавуны — гэта такога роду ежа - лякарства, якое заўсёды дапамагае і ніколі не пашкодзіць, нават у вялікіх дозах. Сезон кавуноў для хворых з функцыянальным парушэннем дзейнасці мачавых органаў, для хворых склярозам, артрытам і да т. п. — гэта хатні курортны сезон, як і сезон суніц.

## Жывыя мовы

Зараз існуе на свеце больш як 2500 «жывых» моў (якімі людзі зараз карыстаюцца) не ўлічваючы ў гэта дыялектаў. Ніжэй падаем тыя мовы, якімі карыстаецца не менш як 8 мільёнаў чалавек.

| | |
|---|---|
| 1. кітайска-мандарынская | 460 |
| 2. англійская | 281 |
| 3. руская | 158 |
| 4. гінды | 152 |
| 5. іспанская | 145 |
| 6. нямецкая | 120 |
| 7. японская | 96 |
| 8. бенгалі (Індыя, Усх. Пакістан) | 80 |
| 9. арабская | 77 |
| 10. партугальская | 76 |
| 11. французская | 71 |
| 12. малайская | 70 |
| 13. італьянская | 57 |
| 14. урунду (Зах. Пакістан, Індыя) | 51 |
| 15. кітайска - кантонская | 44 |
| 16. явайская | 42 |
| 17. украінская | 40 |
| 18. ву (Кітай) | 39 |
| 19. тэлюгу (Індыя) | 39 |
| 20. міу (Кітай) | 36 |
| 21. тамільская (Індыя, Цэйлон) | 35 |
| 22. карэйская | 34 |
| 23. польская | 33 |
| 24. марамгі (Індыя) | 32 |
| 25. панджабі (Усх. Пакістан, Індыя) | 24 |
| 26. турэцкая | 24 |
| 27. в'етнамская | 24 |
| 28. гуджарацкая (Індыя) | 20 |
| 29. перска-фарсі | 20 |
| 30. сыямска-тхаі | 20 |
| 31. гакка (Кітай) | 19 |
| 32. каннара (Індыя) | 19 |
| 33. раджахстані (Індыя) | 17 |
| 34. сербахарвацкая | 16 |
| 35. малягам (Індыя) | 15 |
| 36. румынская | 14 |
| 37. орня (Індыя) | 14 |
| 38. бірманская | 14 |
| 39. гауса (Нігерыя, Нігер) | 14 |
| 40. сундайская (Інданезія) | 13 |
| 41. суагілі (Усх. Афрыка) | 13 |
| 42. венгерская | 12 |
| 43. галандская | 11 |
| 44. пушту (Аўганістан, Пакістан) | 11 |
| 45. чэшская | 10 |
| 46. беларуская | 10 |
| 47. правансальская (паўдн. Францыя) | 10 |
| 48. шведская | 9 |
| 49. грэцкая | 9 |
| 50 амгарская (Абісінія) | 8 |
| 51. балгарская | 8 |
| 52. бісая (Філіпіны) | 8 |
| 53. тагалог (Філіпіны) | 8 |




Бывае, чалавек думае. Думае днём, думае ноччу і да нічога не можа дадумацца. Для карысных думак галава павінна быць моцная, мацней чыгуннага сагана, тады і толк будзе ад думак.

Возьмем, напрыклад, нашу вёску. Некалі людзі з сярпом і сахой выходзілі ў поле, а сёння гучаць на палях сельгасмашыны. У механізацыі сельскай гаспадаркі мы шагнулі далёка, а ў жывёлагадоўлі ўсё нейк на месцы топчамся. Выкормліваем парсюкоў зусім так, як нашыя прадзеды кармілі. Догляд кароў такі ж, як пры цары Грозным. Словам, ніякага прагрэсу не відаць у гэтай справе. Усё гэта таму, што мы мала задумваемся над прагрэсам, а часцей за ўсё пустыя, непатрэбныя думкі па галаве ганяюцца.

Некаторыя грамадзяне, аматары выпіўкі, сумуюць за перагонным апаратам. Яны не задумваюцца над тым, што пераводзіць муку на самагонку справа зусім лішняя. Яшчэ пры Чынгіс Хане, манголы рабілі з кабылінага малака такі напітак, ад якога тры дні ў галаве шумела. Калі ў нашых вёсках пачнуць даіць кабыл (а ёсць жа іх у нас пропасць) — ад гэтага будзе толькі прыбытак.

Увіце сабе, мілыя грамадзяне, такую сцэнку:

У хаце адбываецца пір. П'яныя і паўп'яныя субяседнікі намагаюцца адзін другога перакрычаць, а тут уваходзіць міліцыя ў пошуках прычыны весялосці.

Гаспадар хаты выходзіць насустрач няпрошаным госцям, выпісваючы нагамі кругелікі. Ён налівае бешанага пойла (з кумыса) і падае прадстаўнікам улады.

Пазнаўшы ў чым справа, міліцыянеры ад выпіўкі адмаўляюцца, бяруць пад казырок, просяць прабачэння і выходзяць.

Тут нават сам генерал міліцыі ніякага пратакола не напіша, таму што ў нашым законе не прадбачваецца канкурэнцыі кабыл са спіртна - гарэлачным манаполем.

Або возьмем, напрыклад, прадукцыю масла. У малаку каровы 4% тлушчу. У аленім малаку гэтага ж тлушчу на 3 разы больш. Значыць з аленяга малака можна адвеяць 12% смятаны, набіць масла, а рэшту малака здаць на пункце скупу, як высокапрацэнтавае.

Пры гэтым каровы трэба карміць, а алені самі кормяцца. Нават зімой разграбаюць снег і скубуць сабе травяныя карэнчыкі. Рогі ў аленей таксама прыгажэйшыя. На такіх рагах хоць антэну расцягвай і за 20 кіламетраў ад хаты з жонкай сабе размаўляй.

Тады і жонкі менш будуць па суседзях бегаць. Гаспадар вернецца з працы і спытае:

— Дзе была ў дзесяць нуль - нуль? Пазыўныя высылаў, а нашая рацыя не адказвала.

Эх, людзі добрыя! Шмат чаго можна палепшыць у гаспадарцы, калі добра падумаць. Толькі не падумайце, людзі добрыя, што дурань думкамі багацее.

*Дзядзька Лявонь*




## ЦУДОЎНАЕ МЫЛА ФАКІРА

Мінула дзесятая гадавіна шлюбу. Лаўра цяпер даглядала больш за хатай, чым за сабой.

Аднойчы Бэрнард прынёс таямнічы пакунак і падаў яго жонцы.

— Што гэта? — спытала.

— Гэта, мілая мая, цудоўнае мыла.

— Цудоўнае?

— Купіў яго ў індыйскага факіра. Ён сказаў, хто гэтым мылам мые рукі, штодзень робіцца прыгажэйшым і малодшым...

— Глупства, — адказала.

Але пасля спрабавала. А захацеўшы як найхутчэй стаць прыгожай і маладой, мылася цудоўным мылам пачаткова тры разы, пасля пяць разоў, а ў канцы шэсць разоў у дзень. Штодзённа па некалькі разоў пільна ўзіралася ў люстра, ці ёсць вынікі. Пры гэтым, калі пабачыла, што валасы яе растрэпаны, брала грэбень і шчотку. Папраўляла шмінкай лінію вуснаў, укладвала перакрыўленыя фалды сукенкі. А калі зноў глядзела ў люстра, пачынала сама сабе падабацца. Ад гэтага на твары яе з'явілася ўсмешка задавальнення. Злёгку ўсміхаючыся, выглядала шмат маладзей, таму ўсмешка на яе твары засталася ўжо назаўсёды. Жанчына, якая ведае, што выглядае шмат прыгажэй, чым дагэтуль, галаву трымае вышэй, вочы яе пабліскваюць.

Лаўра мылася цудоўным мылам шэсць разоў у дзень. Шэсць разоў у дзень яна маладзела і прыгажэла. Хто шэсць разоў у дзень загляне ў люстра, таму яно прыпамінае, каб празмерна не таўсцець. Адначасова з затратай лішніх кілаграмаў чалавеку прыбывае ахвоты да жыцця і яго радасцей. У Лаўры паявіўся тэмперамент. Рухі яе сталі жывейшыя, ход з грацыяй. І муж быццам бы змяніўся. Стаў больш чулым, далікатным. А гэта яшчэ больш адмалоджвала Лаўру.

І падумаць, што ёсць яшчэ людзі, якія не вераць у цудоўную моц сродкаў, якія прадаюць індыйскія факіры.

**Ганс Рэслер**




### ХТО НАЙЛЕПШ ЛЁТАЕ

На ўроку заалогіі настаўнік пытае вучня:

— Скажы, Міша, хто найлепш і найвышэй лётае.

— Чалавек, — адказаў Міша.

— Чаму?

— Вось, напрыклад, Гагарын. Вакол зямлі абляцеў, узнімаючыся на вышыню да 300 кіламетраў. Ці ж на такой вышыні лётае якая - небудзь птушка?

**Янка Зданоўскі**
Альхоўка

### ВЫНАХОДЛІВЫ

— Скажы настаўніцы, — звяртаецца маці да сынка, — што некалькі дзён не будзеш у школе, бо маеш двух новых брацікаў.

— Добра мама. Але скажу толькі аб адным брацiку, а другога пакіну на наступныя дні.

**Коля Вілюк**
Палічна

### ПІЛЬНАЯ

— Не забудзь толькі, — кажа пані да новапрынятай служанкі, — у 9 гадзін усіх дзяцей накарміць, распрануць, памыць і спаць палажыць.

Калі яна вярнулася позним вечарам, дык спытала аб паводзінах дзяцей.

— Наогул добрыя, — адказала служанка. — Усіх я накарміла, распранула, у ванне выкупала і спаць палажыла. Толькі гэты старэйшы, рыжы, быў вельмі непаслухмяны. Страшэнна супраціўляўся!...

— Рыжы?! — ускрыкнула пані. — Дык гэта ж мой муж!..

**Зэнка**

### СПЯШАЕ

— Сядайце, дзядзька, падвязу, — крыкнуў Іван суседу, запускаючы матацыкл.

— Дзякую, няма часу, мне трэба хутчэй ісці.

**Валодзя Місеюк**
Гайнаўка




Зайграліся ▲

АБ'ЯДНАННЕ БОНА І ВАШЫНГТОНА

— Ці вельмі баліць?
— Так, асабліва калі смяюся.

— Купі, панок, цукар!
— Э-э, ці няма ў вас цэглы?




**Не кожны вясковы чалавек можа пахваліцца сваімі знаёмствамі ў міністэрстве. А вось жыхары Сакоў, у Бельскім павеце, могуць.**

**У Міністэрстве сельскай гаспадаркі амаль усе дырэктары паасобных дэпартаментаў ведаюць Сакоўскіх сялян, як лысых коней. Яны там ужо парогі паабівалі. Некаторыя з іх хваляцца, што нават самага міністра, грамадзяніна Ягельскага, асабіста ведаюць. І ўсё гэта дзякуючы камасацыі зямлі, якая ўжо тры разы ў Саках праводзілася. Ніяк не могуць зямельныя ўлады дагадзіць Сакоўскім сялянам. То таму горшы кусок зямлі пападзецца, то гэтаму не такі, як ён хоча. І ніяк паміж сабой не могуць яны дайсці да ладу. Таму ездзяць у міністэрства муцяць там дарма ваду. Быццам працаўнікі міністэрства не мелі іншага клопату, як толькі дзяліць зямлю паміж сварлівымі сакоўскімі гаспадарамі.**

**Калі ў вёсцы няма ладу, няма зразумення паміж сялянамі, дык і сам справядлівы Саламон тут не рассудзіць.**




(Байка)

Казёл з гадамі кінуўся ў распусту.
Сягоння ён адной закруціць галаву,
Назаўтра — новая Каза па густу,
А там ён з трэцяю скубе траву.
З двара у двор, ад статка і да статка,
Не дбае пра Казу і казляняткаў.
— Адумайся! І нораў свой стрымай! —
Перасцярог яго Бугай, —
Даскачашся, што абламаюць рогі
Так некалі намнуць бакі,
Што ў родны хлеў не знойдзеш ты дарогі...
— Ах страх які!
Так і спужаўся! —
Затрос рагаты сівай барадой, —
Яшчэ Казёл не нарадзіўся той,
Хто б сілаю са мною параўняўся...
...Але наскочыла каса на камень —
Знайшоўся на яго Казёл з мацнейшымі рагамі
І так бадзягу рэбры паламаў,
Што ледзьве дуба той не даў.
Ажно ўзмаліўся барадаты:
— Браток! Хоць паўжывым ты адпусці у двор! —
Дальбог не я, а козы вінаваты...
Няхай на іх чума і мор!

* *

На суд грамадскасці я вывеў строгі
Казлоў двухногіх.

**ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ**